


8 кастрычніка

# МАРШ СВАБОДЫ 2000

12⁰⁰ Горадня

**ХОПІЦЬ ЧАКАЦЬ СЬВЕТЛАЙ БУДУЧЫНІ!**

**БУДЗЬ ГАСПАДАРОМ СВАЙГО ЖЫЦЬЦЯ!**

**ПРЫХОДЗЬ РАЗАМ З СЯБРАМІ!**

# Слава Воршы ўжо ня згорша!

## Горадня

**8 верасьня гарадзенцы адсьвяткавалі 486-ыя ўгодкі Аршанскай бітвы. Гарадзенскі гарвыканкам забараніў правядзеньне сьвяточных мерапрыемстваў,- запланаваных Гарадзенскай арганізацыяй БНФ "Адраджэньне" разам з Маладым Фронтам. Таму сёлета Дзень Беларускай Вайсковай Славы адзначаўся нетак масава і гучна, як у мінулыя гады. Але беларусы не забываюццана сваіх славутых продкаў. Насуперак забаронам уладаў сьвята адбылося.**

Распачалося сьвяткаваньне а 15-ай гадзіне ля канцэртнае залы "Гродна" выставай карцінаў гарадзенскага мастака Зьміцера Іваноўскага, якая была прысьвечана вайсковаму ўзбраеньню.

"Мэтай выставы, -адзначае мастак, - было паказаць , што беларускае войска – не сяляне з косамі, а сапраўдныя ваяры, узброеныя адпаведна тагачаснаму ўзроўню вайсковай тэхнікі".

На чатырох палотнах выдатна прасочывалась трасфармацыя ўзбраеньня ваяроў Вялікага Княства Літоўскага з часоў Віценя да пэрыяду Аршанская бітвы, якая назаўжды ўвайшла ў гісторыю як узор выдатнае вайсковае тактыкі.

8 верасьна 1514 года 30-тысячнае войска ВКЛ на чале з гетманам Канстанцінам Астрожскім мужнасьцю і вайсковым умельствам разбіла маскоўскае 80-тысячнае войска князя Васіля III.

На думку Зьміцера Іваноўскага, пад бел-чырвона-белымі сьцягамі ягоныя творы глядзеліся б больш уражліва. Іх зьяўленьне магло быць расцэненая як арганізацыя несанкцыянаванага пікету, і была б рызыка, што карціны сканфіскуюць. Але такое сьвята не магло абысьціся без беларускага сьцяга. І ён зьявіўся. На закінутай на дрот лесьцы залунала бел-чырвона-белае палотнішча.

Неўзабаве зьявіліся міліцыянты. Два маёры ды капітан накіраваліся да выставы. Падзівіліся на карціны, але незнайшлі нічога забароненага. Тады вырашылі дачапіцца да раздачы гістарычных даведак пра Аршанскую бітву. Маёр міліцыі, які адмовіўся назваць сваё прозьвішча, заявіў, што "распаўсюджваньне наглядная агітацыі без пазначэньня накладу і месца друку зьяўляецца грубым парушэньнем передвыбарчай кампаніі". Давялося патлумачыць неадукаванаму чалавеку, што Аршанская бітва ніякага дачыненьня да выбараў у лукашэнкаўскую палату не маюць. Таму , ні з чым міліцыянты вярнуліся да машыны. А ў гэты час двое ў цывільным, што ад пачатку выставы дзяжурылі непадалёк пад слупом , зьнялі сьцяг і зьніклі ў накірунку вуліцы Тэльмана...

На гэтым міліцыянты не супакоіліся. Праз пару хвілінаў за распаўсюджаньне ўлётак былі затрыманыя два маладафронтаўцы. Кіраваў затрыманьнем ужо добра вядомы капітан міліцыі Аляксандр Вялічка. Ён старанна наведвае амаль усе акцыі гарадзенскай апазыцыі, і ўжо не першы раз ягонымі намаганьнямі маладафронтаўцам даводзіцца адседзець колькі гадзінаў у Ленінскім РАУСе, што на вуліцы Тэльмана. Гэтым разам, праўда, хлопцаў адпусьцілі праз поўгадзіны без складаньня пратаколу.

Па заканьчэньні выставы ўдзельнікі сьвята ўсклалі кветкі абаронцам Айчыны да памятных месцаў Горадні. У Каложскай царкве была адслужаная паніхіда па Канстанціну Астрожкаму ды палеглых у Аршанскае бітве беларускіх змагарах. Завяршылася святкаваньне канцэртам маладафронтаўскіх бардаў Вячаслава Жукава ды Валеры Руселіка.

## Крапіўна

**Каля 700 чалавек з усёй Беларусі сабралося на Крапівенскім полі , каб адзначыць сьвяткаваньне бітвы пад Воршай.**

Сьвяткаваньне пачалося са каталіцкай імшы ў гонар палеглых пад час бітвы. Наступнаю часткаю праграмы быў выступ рыцараў з розных клюбаў . Сваю праграму прадставілі Беларускі рыцарскі Клюб пад кіраўніцтвам Арыны Вячоркі, клюб "Рыцары Вялікага Княства", клюб " Чорныя Драбы" ды іншыя.

Вялікая колькасьць бардаў, якія выступалі пад час фэсту, уразілі сваімі старымі й новымі песьнямі.

Вядучы фэсту бард з Магілёву Ігар Мухін-Рабянок адзначыў у сваім выступе: "Сёньняшняе сьвяткаваньне будзе больш сьвяточным чым у папярэднія гады ". Так і адбылося .

Акрамя выступаў Сяржука Мінскевіча , Зьміцера Бартосіка , Віталя Равінскага (які быў прадстаўлены як самы стары бард на дадзеным фэсце), адбылося яшчэ шмат цікавага.

Выступ музыкаў перарваў перфоманс Алеся Пушкіна "Інкарнацыя далёкага вокліча". Пад музыку беларускай дуды з выкарыстаньнем сьвятой вады ды роднай зямлі й попелу спадар Пушкін зрабіў вялікае шоў .

Скончыла дадзены перфоманс спартова-патрыятычная арганізацыя "Край" , якая зьявілася ў самы нечаканы момант.

Раптам на пагорку, дзе стаяў крыж, успыхнула вялікая колькасць паходняў і паднялося каля дзесятка бел-чырвона-белых сьцягоў ды харугва арганізацыі.

Паказальныя баі краеўцаў , якія змагаліся між сабою, як з удзелам зброі, так і без яе, скончыліся выступам "бацькі" фэсту Андрэя Мельнікава. Выступалі яшчэ шмат розных выканаўцаў: А. Гапіч са спеўнай группай "Адраджэнне", Лера Сом ды іншыя.

Пасьля дзьвух гадзінаў ночы на Крапівеньскім полі пачалася беларуская дыскатэка. Сьвята працягвалася ўсю ноч.

**З месцаў сьвяткаваньня А.Сідлярэвіч і А.Мялешка**





# Падарожжа ў мінулае

***24-25 чэрвеня ў Навааградку адбыўся фэст сярэднявечнае культуры "Навагрудак-2000".***

***Для ўдзелу ў фэсьце ў Навагрудак зьехаліся прадстаўнікі рыцарскіх клюбаў з розных гарадоў Беларусі, Польшчы, Латвіі, ды іншых краінаў.***



## ПЕРШЫ ДЗЕНЬ У ТАБАРЫ

Фактычна, фэст пачаўся яшчэ ў пятніцу, 23 чэрвеня. Прадстаўнікі клюбаў разьбілі свой табар з намётаў на адмыслова вызначаным месцы. Такім месцам дзяржава палічыла бераг возера Літоўка, што ў некалькіх кілямэтрах ад Навагрудку. Кашталян табару паведаміў нам, што мы можам весяліцца хоць да позьняе ночы, толькі пад'ём будзе а палове на сёмую.

З гэтае прычыны гарадзенцы вырашылі легчы спаць раней. Праўда моцна заснуць так і не атрымалася. Дзе ж тут засьнеш, калі ўсю ноч ляцяць над Літоўкай песьні этнафальклёрнага гурта "Княжыч" з Полацаку ды яшчэ каля суседняга намёту раве ўва ўсю моц дуда.

Як і абяцалася, ранкам нешта шандарахнула. Казалі, што гэта стралялі з гарматы. І адразу забегаў паміж намётаў кашталян з горнам, не забываючыся крычаць: "Пад'ём!"- і дудзець з усяе моцы ў намёты да тых, хто яшчэ ня даў знак, што прачнуўся. Нарэшце загучала каманда ўсім удзельнікам зшыхтавацца "пры поўным парадзе" для агляду. Пасьля агляду ўсе удзельнікі пагрузіліся ў аўтобусы й падаліся ў Навагрудак.

## СУБОТА

Фэст пачаўся з шэсьця па вуліцах Навагрудку. Навагрудцы з сымпатыяй сустракалі гасьцей, не шкадавалі рук на апладысмэнты.

На цэнтральным пляцы месца адбылося прадстаўленьне клюбаў. Гарадзенцы йшлі ззаду і ў апошні момант прымазаліся да Бабруйску, і выйшлі разам зь імі. Гэта нарадзіла плёткі, нібыта гарадзенцаў на фэсьце ўвогуле не было.

Ня гледзячы на шыкарную рэкляму ў СМІ, арганізатарам высокую адзнаку не паставілі. Паказальных рыцарскіх баёў давялося чакаць цэлую гадзіну, пакуль быў дадзены дазвол іх пачынаць. Пра многія мерапрыемствы ўвогуле ніхто ня ведаў, і яны прайшлі ціха, безь вялікага наплыву публікі.

Рэкляма адыграла адмоўную ролю. Людзі чакалі нечага грандыёзнага, а было звычайнае сьвята. Шмат хто быў расчараваны. Так, да прыкладу, рэкляма абяцала ўвечары "піратэхнічнае шоў", а ў выніку мы ўбачылі нешта трохі меншае, чым салют на 9 траўня ў Горадні. Хаця, магчыма, для правінцыйнага Навагрудку гэта было і супэр.

Сапраўды грандыёзным быў вячэрні бугурт (бойка ўсіх рыцараў адразу). Дарэчы, рыцары Беларусі сталі пераможцамі бугурту.

На жаль, пасьля вячэрняга бугурту не было ніякай канцэртнай праграмы: усе артысты й сьпевакі адканцэрціліся ўдзень, у той час, калі ўсе глядзелі рыцарскія баі. Таму ўсе паціху пачаліся разыходзіцца. Падаліся ў табар і мы.



## НЯДЗЕЛЯ

Стрыжнем усяго фэсту і адзіным мерапрыемствам нядзелі была інсцэніроўка падзеяў 1314 году, калі крыжакі ўзялі ў аблогу Навагрудак, але на дапамогу абаронцам прыйшоў атрад Давыда Гарадзенскага і разьбіў крыжакоў. Менавіта так на фэсьце й адбылося, толькі ўсё ўжо было не па-сапраўднаму. Хоць былі й ахвяры – рыцару з Латвіі ў бойцы расьсеклі патыліцу, і ён доўга ляжаў пад гарой замка, скаціўшыся зьверху, пакуль яго не забрала "хуткая". Ўсё абыйшлося, і латыш зь перавязанай галавой потым расказваў, што гэта ня першая ягоная рана, і паказваў локці зь вялікімі рубцамі. Ён – рыцар, хоць і жыве ў іншым часе. Таму раны яму ня страшныя...



## ПАНЯДЗЕЛАК

Дождж ліў зранку. Усе паціху разьяжджаліся. Мы чакалі. Нашыя два намёты засталіся адныя на беразе Літоўкі. Праўда, пасьля завітаў лясьнік і папрасіў сала. Пасьля ён зь сябрамі гатаваў ежу на вогнішчы. А мы, пачакаўшы, пакуль прасохнуць намёты, рушылі па трасе.

Ішлі мы пешшу, але ісьці было лёгка. Бо нас чакаў дом. Нас чакала Горадня.

**Ясь Сьлівінскі**

# Грунвальдская перамога

***Вялікая група гарадзенскіх турыстаў ды сябраў клюба сярэднявечнай культуры «Двузуб»зрабілі 15-16 ліпеня падарожжа на Грунвальдскае поле. У гэты час на гэтым полі адбывалася сьвяткаваньне 590-ай гадавіны перамогі войска Каралеўства Польскага й Вялікага Княства Літоўскага над крыжакамі.***

Афіцыйная частка мерапрыемства распачалася выступамі прэзыдэнтаў Польшчы і Літвы — Аляксандра Квасьнеўскага й Валдаса Адамкуса.У сваіх прамовах яны казалі пра збройныя ды братэрскія традыцыі абодвух народаў. Дзіўным было й тое, што над полем на вялізных флагштоках лунапі толькі два сьцягі-польскі ды літоўскі.

Беларусаў узгадалі толькі тады калі пачалася сама бітва. Ды й то таму, што ў бітве прымалі ўдзел рыцары з беларускіх рыцарскіх клюбаў. Клюбы з Менску, Магілеву, Наваполацаку ды йншых гарадоў Беларусі прымалі ўдзел у інсцэанаванай бітве, як збоку абьяднанага польска-літоўскага войска, так і збоку крыжакаў. Агульная колькасьць усіх прысутных на сьвяце рыцараў з усёй Эўропы была прыкладна каля 800. Акрамя гэтага была вялікая колькасць людзей проста ў сярэднявечных строях манахаў, палачоў, гандляроў ды рамесьнікаў.

Паглядзець на гэтае відовішча прыехала каля 60 тысячаў чалавек-не толькі з Польшы, з Эўропы, але і з Расеі. ,

Бітва распачалася са стрэлаў артылерыі ды абмену вітаньнямі між прадстаўнікамі крыжакаў ды караля Ягайлы. Пасьля таго, як паслы разьехаліся да сваех войскаў адбыўся яшчэ адзін стрэл «беларуска- літоўскай « артылерыі, пад час якога конь пад Ягайлам спудзіўся ды скінуў вершніка. Літаральна праз поўхвіліны на поле зьявіліся дзьве машыны «хуткае дапамогі»-.Праз некаторы час забраўшы рыцара машыны зьехалі.

Амаль адразу пасьля гэтага над полем бітвы распачаўся дождж і астатняе відовішча адбывалася пад дажджом. Як толькі бітва скончылася, скончыўся й дождж.

Акрамя самое бітвы адбываліся выступы рок-гуртоў, калектываў сярэднявечнай ды фальклёрнай музыкі, моладзевыя дыскатэкі. Музыка каля Грунвальдскага поля гучала да самое раніцы.

На раніцу 16 ліпеня усе прысутныя маглі ўбачыць вялізны бел-чырвона-белы сьцяг, які вісеў на флагштоку замест літоўскага.

**А.Мялешка**

# Бомба ў рэстарацыі

**У жніўні ў старажытным украінскім месьце Чарнігаве праходзіў семінар для актывістаў маладзёвых арганізацыяў Беларусі на тэму "Кааліцыйнае будаўніцтва і выбарчыя тэхналёгіі". Арганізаваў семінар Міжнародны рэспубліканскі інстытут (МРІ), заснаваны яшчэ з блаславеньня Рональда Рэйгана. У семінары ўдзельнічала каля 30 прадстаўнікоў маладзёвых арганізацый, цесна зьвязаных з трыма найбуйнейшымі палітычнымі партыямі: БНФ, АГП, БСДП. Калі браць па рэгіёнах, то ажно 13 чалавек прыехалі з Магілеўшчыны і толькі па некалькі з Гарадзеншчыны ды Берасьцейшчыны.**

Адчынілі семінар выканавец абавязкаў дырэктара праграмаў МРІ ва Украіне сп.Пэпсэл ды арганізатар з украінскага боку сп.Навумаў. Яны патлумачылі мэту семінара і пажадалі ягоным удзельнікам плённае працы. Потым выступіў дэпутат эстонскага парлямэнту сп.Аймар Альтосаар, які распавёў пра гісторыю эстонскае дэмакратыі з канца 80-х гадоў. Адчувалася, што расейскую мову ён ужо амаль забыўся, бо слухаць яго было досыць цяжкавата. Сп. Альтосаар пачаў таксама тэму выбарчых тэхналёгіяў. І тут адразу высьветлілася, наколькі эстонец і, далей, украінскія выступоўцы не валодаюць беларускай сітуацыяй, яны расказвалі як можна выйграць выбары ў Эстоніі ці ва Украіне, але ўсе іхныя парады што да Беларусі былі нерэальныя і, часам, наіўныя.

Нечакана адзін з арганізатараў паведаміў, што ён запрашае ўсіх удзельнікаў зрабіць экскурсію па славутых мясьцінах Чарнігава, што не было прадугледжана ў раздадзенай праграме семінару. На выхадзе з рэстарацыі, дзе праходзіў семінар, нас сустрэлі украінскія спецназаўцы, якія ўжо шыхтавалі ачапленьне вакол будынку. Яны папрасілі, каб мы хуценька адыйшлі на другі бок вуліцы. Прычына такіх дзеяньняў была ў ананімным паведамленьні, нібы будынак замініраваны. Зараз жа прыехалі пажарнікі, "хуткая" і, зразумела, саперы з сабакам. Пошукі выбухованага прыстасаваньня доўжыліся каля трох гадзінаў. Нічога не знайшлі... Адчуваецца почырк "родных" спэцслужбаў. Пра што беларусамі была запушчана чутка цікаўным чарнігаўцам. А адзін пенсіянэр, не зразумеўшы закрычаў нешта пра "западэнців", то бок "захопнікаў".

Тым вечарам заняткі ў канфэрэнц-залі рэстарацыі "Новій Чернігів" ужо не ўзнавіліся, затое беларусы мелі гонар дакрануцца да помнікаў даўніны, на якія багатае месца Чарнігаў, штодаволі працяглы час уваходзіла ў Вялікае княства Літоўскае. На свае вочы мы пабачылі колькі цэркваў XII ст. і найстаражытнейшы з ацалелых ва Украіне храм – Спаса-Праабражэнскі сабор (1036). З убачаных славутасьцяў варта адзначыць яшчэ помнік Тарасу Шаўчэнку і Калегіюм XVII ст.

Другі дзень семінару быў прсьвечаны тэме кааліцыйнага будаўніцтва. Спачатку на прыкладзе апошніх украінскіх выбараў, а потым на прыкладзе няўдзелу беларускай апазыцыі ў парляманцкіх выбарах 15 кастрычніка.

Яшчэ да абеду адбылося закрыцьцё сэмінару, на якім арганізатары выказалі спадзеў на далейшае супрацоўніцтва з беларусамі. Варта заўважыць, што сэмінары на падобныя тэмы асабліва будуць карысныя тады, калі Беларусь будзе рыхтавацца да сапраўды дэмакратычных выбараў.

**В.К.**







# Малады Фронт ідзе на фашызм!

**9 траўня «Малады Фронт» ладзіў каля Кургану Славы несанкцыянаваны пікет.**

**На ім раздавалася надрукаваная антыфашыстоўская старонка з трэцяга нумару «Дзіды» й былі разгорнутыя транспаранты антыфашыстоўскага зьместу.**

Натоўпы гарадзенцаў сыходзіліся да помніку апошняе вайны. Сьвята, прыватызаванае савецкімі ўладамі для ўмацаваньня свайго панаваньня над людзкімі думкамі, ізноў адзначалася зь неадпаведнай помпаю. Бо ўлада фактычна засталася савецкая. Ізноў прамаўляліся зацьвілыя прамовы, сьпяваліся «замшэлыя» песьні. Замоўчвалася тое, што нешматлікія яшчэ жывыя вэтэраны ня бачылі заможнага жыцьця пасьля перамогі і дажываюць свой век у галечы. Абыходзілася ўвагаю галоўнае: тая перамога над фашызмам была здабытая не для шматгадовага гучнага сьвяткаваньня, а найперш дзеля таго, каб болей не паўтараліся жахі вайны, у якой сутыкнуліся дзьве роднасныя сыстэмы: фашызм ды камунізм. Перамога тая адбылася ня дзякуючы кіроўнай ролі партыі і Сталіна, а на суперак гэтае ролі. Людзі баранілі ў першую чаргу сябе, сваю чалавечую годнасьць, свае сем'і. На жаль іхны гераізм пайшоў і на ўмацаваньне жахлівага камуністычнага ладу, які аганізуючы, дагэтуль трымае нашу краіну ў сваіх абдымках. Чаго вартая толькі прыхаваная падтрымка ўладамі фашыстоўскага РНЕ для адцягваньня ўвагі нацыянальна-дэмакратычнага руху. Гэта факт з таго шэрагу, што й сумесны парад гітлераўскіх і савецкіх войскаў у 1939 годзе ў Берасьцейскай фартэцыі. Падступная сутнасьць улады: гаворыш адно - робіш адваротнае.



Малады Фронт: «Раздавім фашысцкую гадзіну!»

Перад пачаткам афіцыйнага мітынгу аўтар артыкулу быў гвалтоўна затрыманы супрацоўнікам міліцыі Сідарам без тлумачэньня прычынаў затрыманьня. У міліцэйскім рафіку было канфіскаванае зьмесьціва майго пакета: транпарант «Фашызм, камунізм, таталітарызм ня пройдзе!» і 22 асобнікі «Дзіды». Як дужа небясьпечнага злачынцу адвезьлі ў пастарунак, дзе пратрымалі дзьве гадзіны без прад'яўленьня абвінавачваньня ў зьдзяйсьненьні правапарушэньня. Маўляў, мы яго папярэдзілі! Хоць насмрэч, міліцыянты проста запабяглі гневу начальства малога, начальства малое - начальства вялікага, начальства вялікае - раз'юшанасьці самога грамадзяніна Лукашэнкі. Як гэта так, дапусьцілі такое іншадумства, калі ўсе павінны варушыць глуздамі паволі, нягучна і згодна з курсам! АФІЦЫЙНЫМ.

Гэтая гісторыя мела працяг да нядаўнег часу. Спачатку была заява-скарга на дзеяньні міліцыянтаў начальніку Кастрычніцкага РАУС. Адтуль прыйшла адпіска: «Не вінаватыя мы». Потым падаў скаргу ў раённую пракуратуру. Там не знайшлі нічога лепшага, як накіраваць справу ў абласное УУС. Але ці будзе міліцэйская установа выносіць сьмецьце з уласнае хаты?

**Валер Кісель**



Акцыя працягвалася і пасьля затрыманьня

# Алімпіяда-2000!

## Сыднэй? Не! Горадня!

### Адкрыцьцё

21 траўня а 19 гадзіне каля знаку «Пагоня на Грунвальд» адбылося ўрачыстае адкрыцьцё Алімпіяды маладзёвых няўрадавых арганізацыяў Горадні-2000.

Падобнае мерапрыемства ладзіцца ўжо трэці год запар. Кожны раз арганізатары спрабуюць правесці Алімпіяду лепш і лепш. Якасна зьмяняецца і склад удзельнікаў. У гэтым годзе акрамя Маладога Фронту ўдзельнікамі Алімпіяды былі Маладая Грамада, Грамадзянскі Форум, Незалежны Маладзёвы Рух, Альянс імя Вітаўта Вялікага, Дзедзічы, гарадзенскія анархісты, сябры МФ з Мастоў.

І вось гучыць гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Пасьля таго, як быў прынесены агонь Алімпіяды пад песьню «Край» з «Народнага альбому», падымаецца бел-чырвона-белы сьцяг Алімпіяды.



*Адкрыцьцё Алімпіяды-2000. Сьвяточны канцэрт*

Гучыць прывітальнае слова да ўдзельнікаў і гасьцей Алімпіяды.

Пасьля абвяшчэньня раскладу мерапрыемстваў распачынаецца канцэрт маладафронтаўскіх бардаў.

*Працяг на 7-й старонцы*

## Адмова

14 траўня, пяць годоў таму, адбылася ганебная падзея ў гісторыі Беларусі. Рэфэрэндум-95 сарваў маску з антыбеларускага рэжыму. Маніпулюючы грамадзкай думкай, карыстаючыся гебэльскай прапагандай, былі зьмененыя дзяржаўныя сымбалі, расейская мова атрымала статус дзяржаўнай. Гэтыя пяць гадоў пасьля рэферэндуму адкінулі краіну ў савецкія часы, перш за ўсё па мове. Таму кіраўніцтвам Гарадзенскай арганізацыі Маладога Фронту было пастаноўлена правесьці пікет пад лёзунгам: “Не палітыцы русыфікацыі на Беларусі!” і атрымалі ... адмову. Адзіным суцяшэньнем у гэтай справе можа быць толькі тое, што свой адказ чыноўнікі з гарвыканкаму ўпершыню за некалькі апошніх гадоў даслалі па-беларуску.

С.А.

## Малады Фронт ня хочуць рэгістраваць у Міністэрстве Юстыцыі

**Дагэтуль не вырашана пытаньне аб рэгістрацыі Маладога Фронту ў Міністэрстве юстыцыі. Як вядома, Мінюст абавязаны разглядаць такія справы ў месячны тэрмін.**

Маладафронтаўцы, якія апошнімі днямі настойліва спрабавалі высьвятліць лёс маладзёвага грамадзкага аб”яднаньня «Малады Фронт», аказаліся перад фактам відавочнага парушэньня закону. Выканаўца, прызначаны разглядаць дакумэнты Маладога Фронту, Станіслаў Мікалаевіч Шляхто 21 чэрвеня заявіў старшыні арганізацыі Паўлу Севярынцу, што на дадзены момант справа МФ знаходзіцца ў так званай «камісіі Замяталіна» і даць адказ на простае пытаньне, ці зарэгістравалі «Малады Фронт», ён ня можа.

МФ зьвятае ўвагу на тое, што такім чынам Міністэрства Юстыцыі відавочна парушае закон «Аб грамадзкіх аб`яднаньнях».

Управа МФ накіроўвае ліст спадару Сухініну, загадчыку аддзелу рэгістрацыі грамадзкіх аб”яднаньняў, з патрабаваньнем даць адказ.

Маладафронтаўцы не выключаюць, што такая пазыцыя Мінюсту зьвязаная з набліжэньнем 1 ліпеня, калі павінен адбыцца Сойм МФ, на якім плянуецца прыняць праграму для ўсяго нацыянальнага руху моладзі.

**Прэс-служба Маладога Фронту**
21.06.2000 г.

Да гэтага часу застаецца нявызначаным юрыдычны статус буйной моладзевай арганізацыі Малады Фронт. Роўна тры месяцы таму актывісты арганізацыі падалі дакуманты на рэгістрацыю, пасьля чаго зь Міністэрства юстыцыі не прыходзіла ніякіх афіцыйных адказаў.

Гэтае пытаньне спрабавалі высьветліць прадстаўнікі АБСЭ, адказ міністра Г. Варанцова быў лякантчны: дакуманты ў стадыі разгляду. Нарэшце ўчора, пасьля падачы кіраўнікамі МФ скаргі ў пракуратуру, на ўправу арганізацыі прыйшоў факс зь мінюсту. Але сэнсацыі не атрымалася, дакуманты па-ранейшаму знаходзяцца на разглядзе. Кіраўнікі Маладога Фронту лічаць, што Міністэрства юстыцыі апынулася ў няпростым становішчы. Рэгістраваць самы масавы нацыянальны моладзёвы рух азначае дазволіць разгарнуцца незалежніцкім ініцыятывам значна шырэй. Адмовіць у рэгістрацыі (фактычна забараніць МФ) страшна: падпольны Фронт пужае рэжым яшчэ больш, чым ся напаўлегальны.

**БАРЦ, 17 жніўня 2000г.**

# Алімпіяда-2000!

# Сыднэй? Не! Горадня!

(працяг. Пачатак на 6-ай ст.)

## Шахматы

24 траўня на ўправе БНФ адбыліся спаборніцтвы па шахматах у рамках Алімпіяды Маладзёвых Няўрадавых Арганізацыяў Гарадзеншчыны.

Турнір праходзіў па алімпійскай сыстэме, а ў выпадку нічыйнай праводзілася дадатковая партыя.

Асабліва ўпартай была сустрэча паміж Сківіцкім Дзімам і Трафімовічам Ігарам: каб вызначыць мацнейшага, ім спатрэбілася ажно тры партыі.

У першай партыі Дзіма меў значную перавагу, але напрыканцы Ігар здолеў зрабіць пат.

У наступнай партыі Дзіма вырашыў перамагчы хітрасьцю: ён пачаў сьцябсьціся з дэбюту Ігара, ужываючы выразы з польскай мовы. Ахоплены рогатам, Ігар ня мог уважліва сачыць за сваімі фігурамі і ў хуткім часе застаўся з адным каралём. Вынікам гэтай партыі зноў стаў пат, верагоднасьць якога не дагледзеў Дзіма.

Трэцяя партыя, нарэшце, вызначыла пераможцу. Ігар больш сваіх фігураў не губляў, а Дзіма зрабіў некалькі памылак. Застаўшыся бязь лёгкіх, а таксама й цяжкіх фігур Дзіма вырашыў здацца.

Але гэта была толькі гульня за шостае месца.

Перамогу ў турніры атрымаў Віктар Цьвік, зь Незалежніцкага Маладзёвага Руху.

Трэба адзначыць, што старшыня Маладога Фронту Андрэй Мялешка заняў пачэснае дзясятае месца.





Нашыя грасмайстры падчас спабору

## Армрэсьлінг

30 траўня прайшоў спабор па армрэсьлінгу, ў якім удзельнічала 7 чалавек, 4 з якіх сябры МФ.

Кожны з удзельнікаў павінен быў змагацца дванаццаць разоў, шэсьць левай і шэсьць правай рукой.

Так атрымалася, што на другое і трэцяе месца прэтэндавала па два чалавекі, дадатковыя спаборы нічога ня вызначылі і на трох прызавых месцах размясціліся пяць чалавек, прычым тры з іх сябры МФ.

Першае ж месца атрымаў сябра Незалежнага Моладзевага Руху Сацута Віктар, які здолеў перамагчы ўсіх супернікаў.

## Нарэшце

Пасьля шматлікіх спабораў, пісаць пра якія проста няма сілаў, урачыстага закрыцьця з канцэртам Андруся Мельнікава, прызамі і пераможцамі, мы кажам: «Да сустрэчы на «Алімпіядзе-2001»!


Падчас спабору «Міс Алімпіяда -2000»




# Сымбаль змаганьня

**У траўні споўнілася 55 гадоў з дня заканчэньня II сьветавай вайны. Народы краінаў былога СССР даўно цьвяроза паглядзелі на хаду й вынікі вайны. Беларусы ж і па сёньняшні дзень верац казкам пра геройскае змаганьне савецкіх партызанаў. Імёны сапраўдных герояў і сёньня (для большасьці) застаюцца невядомымі. Якуб Харэўскі – адзін з кіраўнікоў Беларускага Рэзыстансу, легенда партызанскага руху, сымбаль змаганьня беларусаў за Волю.**

Якуб Харэўскі (Новік) нарадзіўся ў 1900 годзе ў вёсцы Харэва. У 20-х гадох ён стаў кіраўніком партызанскага атраду, які ўваходзіў у 5-ую групу партызанскіх войскаў Беларускай Народнай Рэспублікі, і дзейнічаў у Ружанскай пушчы. Побач у Ліпчанскай пушчы і на Слонімшчыне дзейнічалі партызаны Іскры, Рудога, Шаршня. З 23-га году, калі партызаны страцілі сувязь з кіраўніцтвам БНР, атрад Харэўскага пачаў дзейнічаць самастойна.На тэрыторыі разьмяшчэньня атрадаў атаманаў Рудога, Іскры і Харэўскага пачалі сваю дзейнасьць партызанскія атрады пад кіраўніцтвам ГПУ. Сваімі дзеяньнямі яны часта "падстаўлялі" нашых партызанаў пад удар паліцыі. Але ў выніку перамоваў тэрыторыя была падзелена , і "чырвоныя" больш не зьяўляліся на абшарах беларускіх партызанаў.

У 1925 годзе польскай паліцыяй быў праведзены шэраг карных апэерацыяў, у выніку чаго быў арыштаваны атаман Руды, група Шаршня была амаль цалкам зьнішчаная. Бальшавіцкія ж партызаны спынілі сваю дзейнасьць. Харэўскі з сваім атрадам застаўся адзін. У гэтых умовах ён распускае атрад, а сам уцякае ў Савецкую Беларусь.

У 1937 годзе ён хаваецца на Валыні ад савецкіх рэпрэсіяў.

У 1939 годзе сабралася канфэрэнцыя Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, на якую запрасілі і Харэўскага. Грамадоўцы рыхтавалі антыпольскае паўстаньне з мэтай абвешчаньня незалежнай Заходне-Беларускай Рэспублікі. 1 верасьня атаман зьбірае былых пабрацімаў і новых змагароў.

Калі сілы паўстанцаў аб"ядналіся, Харэўскі стаў намесьнікам Галоўнага Камэнданта Івана Тарасюка, а 16 верасьня цалкам пераняў камандаваньне партызанамі. Але ён быў вымушаны адмяніць штурм Пінску і адвесьці аддзелы ў лясы, бо Заходнюю Беларусь акупавалі бальшавікі.

З гэтага часу Харэўскі вымушаны хавацца ў лясох (спачатку ад бальшавікоў, пасьля ад фашыстаў). Зь цягам часу яго атрад набыў імя амтамана Нябабы. Ён дзейнічаў каля Пінску, Камень-Кашырску і Любяшова.

З прыходам немцаў атрад імя Нябабы ў складзе Беларускай Самаахові (БСА) сумесна з Палескай Сеччу Украінскай Паўстанцкай Арміі пад кіраўніцтвам Тараса Бульбы (Максіма Бараўца) удзельнічаў у антыбальшавіцкай апэрацыі на Палесьсі.

Але, калі нямецкія акупацыйныя ўлады захацелі падпарадкаваць сабе аддзелы БСА, шмат атаманаў або распусьцілі іх, або адвялі ў лясы.

У 1941 годзе паўстала падпольная арганізацыя Беларуская Народная Грамада, што імкнулася ачоліць партызанскі рух. Пры дапамозе БНГ была наладжана сувязь між палескімі і гарадзенскімі партызанамі. У чэрвені 1942 году на хутары пад Івацэвічамі адбылася І-ая канфэрэнцыя БНГ і партызанскіх кіраўнікоў. На ёй была ўтворана Лава Атаманаў, Харэўскі быў абраны яе старшынём.

У восені 1942 году на Палесьсе была скінутая дывэрсійная група Топкіна, а таксама дзейнічала партызанка АК. Таму ў лістападзе 1942 году была праведзена ІІ-ая канфэрэцыя БНГ, дзе была ўтворана Беларуская Народная Партызанка. Яе кіраўніком стаў палкоўнік Іван Шанько.

Улетку 1943 году савецкі дывэрсант Льдоў-Лінькоў (Баця) забівае Шанько і яшчэ некаторых партызанскіх кіраўнікоў, іх атрады падначальвае сабе. Гэтая тактыка (забіваюць кіраўніка, а пасьля кажуць, што ён адляцеў у Маскву), а кіраўніцтва перадаў савецкім партызанам, або забівалі як фашыстоўскага агента) выкарыстоўвалася ня толькі ў Палесьсі.У гэты час атрад імя Нябабы знаходзіўся ў рэйдзе на Валыні, і каб уратаваць сваіх людзей ад маскоўскіх агентаў Харэўскі дысьлякуецца ля Марочна, Любяшова, Раіну.

Калі адыходзілі немцы, «нябабаўцы» захапілі шмат зброі, папоўнілі свае шэрагі і адыйшлі на Берасьцейшчыну, каб змагацца з новымі акупантамі -- бальшавікамі. Атрад актывізаваў баявыя акцыі і набыў шырокую вядомасьць сярод мясцовага насельніцтва. Славутыя змагары яшчэ доўга дзейнічалі на Берасьцейшчыне, Піншчыне, каля Лохвы, Косава, Камень-Кашырску, Століну, не даючы спакою чырвоным акупантам ды іхным халуям.

Як сьцьверджваў сам Харэўскі, яго атрад перастаў існаваць у 50-х гг., але, хутчэй за ўсё, нябабаўцы склалі зброю ў 1948 годзе, бо ўжо ў 1949 г. Харэўскі і яшчэ 18 чалавек апынуліся ў Заходняй Нямеччыне. Астатнія партызаны засталіся на Бацькаўшчыне й паспрабавалі легалізавацца.

Але ў Нямеччыне на іх пачалі «паляваць» чэкісты. І яны разам з партызанамі Перагуда зьехалі ў Бразылію. Савецкія спэцслужбы дабраліся і да Бразыліі 2 красавіка 1968 года атаман Харэўскі разам з Кастусём Гукам гіне ў «аўтамабільнай катастрофе»...

Такія людзі, як Якуб Харэўскі, паміралі за Нацыю, але сваёю крывёю набліжалі сваю мэту - Незалежнасьць Бацькаўшчыны. Яны верылі, што на іх крыві паўстануць новыя пакаленьні змагароў, якія здабудуць Беларускую Дзяржаву, за якую сотні тысяч людзей паклалі свае галовы. Нышыя продкі засталіся неператожанымі, бо яны загінулі, але ня ўсталі на калені. Іх чыны будуць вечна натхняць новыя пакаленьні беларусаў на сьвятую барацьбу за Свабоду.

Вечная памяць Героям!

**У.Вой**

# СУПРАЦЬ МЕЖАЎ

**З 13 па 19 ліпеня ў Польшчы, ў Бешчадах, у мястэчку Горныя Ўстрыкі адбыўся лягер супраць межаў. Месца было выбрана невыпадкова – гэта кут Польшчы, дзе сыходзяцца межы самой Польшчы, Украіны і Славакіі, і гэта прыпадае на горы Бешчады, дзе ўжо даўно пралягае шлях для нелегальных эмігрантаў у Эўропу. Трапляючы гэтым шляхам у амаль ужо заходнюю Польшчу, частка зь іх застаецца там, а астатнія едуць далей на Захад. Менавіта таму лягер быў арганізаваны у такім сымбалічным месцы, і лёзунг лягера быў "Zaden czlowek nie jest nelegalny".**

**Арганізатарам лягера была Федэрацыя анархістаў Польшчы, і большасьць удзельнікаў таксама з Польшчы. Але лягер атрымаўся інтэрнацыянальным: былі людзі з Германіі, Галяндыі, Аўстрыі, Францыі, Чэхіі, Славакіі, Украіны, Расіі ды Беларусі. На жаль, з астатніх трох краінаў людзей было небагата, улічваючы актуальнасьць гэтых праблемаў для нас, жыхароў былога СССР. Як вядома, з нашых краін шмат людзей імкнуцца выехаць на Захад і часткова складаюць той самы кантынгент нелегальных эмігрантаў і становяцца ахвярамі брутальнай палітыкі краінаў Захаду супраць гэтых нелегалаў. Праблема правоў гэтых нелегальных эмігрантаў становіцца цяпер адной з самых актуальных.**

У лягеры прыняло ўдзел каля 150 чалавек, завіталі й актывісты гэтай кампаніі з Захаду.

Галоўнае мэтаю акцыі было пазнаёміцца, навесьці кантакты, як гаворыцца, пазнаць зацікаўленных у гэтых праблемах людзей, абмяняцца вопытам ды інфармацыяй. І з гэтага боку лягер атрымаўся цалкам. Большасьць людзей была вельмі зацікаўлена кантактамі з Усходам, і мы як маглі кантактавалі . Увогуле атмасфэра ў лягеры была вельмі прыемнай, а адсутнасьць дасканалай арганізацыі нават рабіла добрую справу – усе адчувалі сябе вольна . Напэўна, гэта самая прыдатная атмасфера для размоў і знаёмстваў.

Аднак акцыяў таксама хапала.

Першая зь іх адбылася 15 ліпеня. Гэта быў пікет камендатуры памежных войскаў у Лютавіске. Больш за сотню маладых каляровых людзей з транспарантамі і сьцягамі завалілі крапівой брамы камендатуры, на гэтыя ж брамы павесілі транспарант "Улада - прэч!", а потым там жа быў сымбалічна спалены чырвона-белы шлягбаум. Людзі скандзіравалі лёзунгі "Адкрыць межы, зачыніць жонды!", "Улада – прэч!", "Міжнародная салідарнасць!", а потым на ўсіх мовах Эўропы "Нелегалаў не бывае!".Паліцыя здалёк спакойна сачыла за намі – небывалая справа для Беларусі, нашы б абавязкова умяшаліся.

Акцыя зацікавіла нават мясцовых жыхароў, на жаль іх было мала.

Большасьць мястэчак гэтага рэгіёну на самай справе – вельмі малыя вёсачкі, таму з пункту гледжаньня агітацыі мясцовых жыхароў штосьці зрабіць было цяжка.

Але на акцыі прысутнічала TV Польшчы і Украіны, таксама некалькі журналістаў польскай афіцыйнай прэсы.

Наступным днём быў запланаваны пераход мяжы менавіта ў тым месцы, дзе сыходзяцца тыя тры мяжы. Для гэтага трэба было падняцца на адную з самых высокіх вершыняў рэгіёну. Тым не менш, сьмелых набралося 40 чалавек, а да канца дайшло 37.Калі мы дайшлі, нас сустрэлі каля 80 польскіх памежнікаў. Як высьветлілася, яны былі гатовыя да нашага візыту і чакалі нас 3 дні. Была інфармацыя, што цэлая іх акруга, а гэта каля 1500 чалавек, была напагатове. Перайсьці мяжу ў такіх умовах, зразумела, не атрымалася, але прыемна і тое, што яны там моклі некалькі дзён. Адбыўся пікет, сапраўды болей падобны на пікет памежнікамі нас – іх было ўдвая больш.

Трэцяя акцыя, што адбылася 16-га, не была запланаваная. Мы даведаліся што ў Горных Устрыках будуецца новы будынак памежнай камендатуры. І выйшлі на дарогу каля гэтага будаўніцтва, разгарнулі сьцягі і транспаранты, а двое актывістаў – немец і балгарын, падняліся на вежу і зьвесілі адтуль вялізны транспарант з надпісам "Адчыніць Эўропу!". Група з некалькі чалавек іх пільнавала ўнізе, каб яны не папалі у лапы паліцыі. Паліцыя, трэба сказаць, нават і не спрабавала зрабіць гэта. Мы тым часам на дарозе да асалоды накрычаліся, і з нагоды ўзмацнейшагася дажджу пачалі разыходзіцца. Частка людзей пасунулася ў лягер, частка засталася ў мястэчку. І тут пачалося самае цікавае. Калі на вуліцы засталося толькі некалькі ўдзельнікаў, раптам зьявіліся машыны паліцыі.

Было затрымана некалькі чалавек.Большасьць была проста перапісаная, але тры зь іх былі завезеныя да камендатуры. Аднак і іх хутка адпусьцілі. Паліцыя шукала арганізатараў і тых, хто павесіў транспарант, такіх сярод нас не знайшлося, але некалькі чалавек атрымалі так званы ў Польшчы калегіюм і штрафы.

Сапраўдных нелегалаў сярод нас не было, таму не было да чаго дачапіцца. Паліцыянты нават не паехалі да нашага лягеру.

З гэтага дня людзі пачалі раз'язджацца.Тыя, хто застаўся працягвалі размовы, пілі піва і сушылі адзеньне...

Шмат эўрапейскай моладзі імкнецца зараз да пашырэньня кантактаў, і ўвогуле, незразумела чаму ў Беларусі мала хто гэтым цікавіцца. Справа ў тым, што палітыка Эўрапейскай Вуніі – гэта ізаляцыя ад краінаў Усходу і так званых «краінаў трэцяга сьвету» – не так вельмі падабаецца самім жыхарам Эўрапейскае Вуніі. Кірунак на ізаляцыю ў сваёй краіне выклікае ксеэнафобію ў грамадстве ды зьяўляецца добрай падставай да ўзьнікненьня фашыстоўскіх настрояў. Такім чынам ўжо некалькі гадоў таму актывісты з розных краін Эўропы пачалі кампанію пад назвай "Нелегалаў не бывае". Галоўнай мэтаю гэтай кампаніі зьяўляецца узрушыць грамадскую думку на гэтую тэму, і традыцыйнай іх метадай зьяўляюцца такія вось антымежавыя лягеры, падчас якіх праводзяцца акцыі, размовы зь мясцовым насельніцтвам. Спадзяюся, што і тут, ў Беларусі, гэтыя праблемы зацікавяць людзей.

***Нелегальны Ўдзельнік***





# Адукацыйныя рэсурсы WWW для «тэхнікаў»

*Ёсьць ахвота вучыцца за мяжой? Вашая энэргія, доступ да Сеткі і крыху цярпеньня - і вы студэнт альбо асьпірант, а можа й навуковы супрацоўнік аднаго з унівэрсітэтаў Эўропы альбо ЗША. Існуе вялікая колькасьць розных адукацыйных праграм і замежных фундацыяў, якія актыўна падтрымліваць інтэграцыю нашых маладых суграмадзянаў у міжнародную адукацыйную і навуковую сыстэму. Вашай увазе прадстаўляем кароткі агляд магчымасьцяў Сеткі па адукацыі за мяжой студэнтаў натуральна-навуковых спэцыяльнасьцяў.*

Першым, найбольш простым у выкананьні, але найменш верагодным (шмат ахвотных) зьяўляецца пошук фінансаваньня і унівэрсытэта праз службы, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі:

**Савет па міжнародных дасьледваньнях і абменах** (*IREX, e-mail:irex@irex.minsk.by*) ажыцьцяўляе праграмы па адукацыйнаму і навуковаму абмену паміж краінамі СНД і ЗША. Асноўная ўмова (акрамя пасьпявальнасьці) веданьне ангельскай мовы.

**Міжнародная Сорасаўская праграма адукацыі й навукі ў галіне дакладных навук** (*ISSEP, www.issep.rssi.ru*) праводзіць спаборы на атрыманьне Сорасаўскіх стыпэндыяў для шкаляроў, студэнтаў, асьпірантаў. Але ж тут, на жаль, перавага аддаецца беларусам, якія вучацца ў Расеі.

**Інфармацыйная служба амбасады ЗША ў Беларусі** ( *USIS, www.usis.minsk.by*) пэрыядычна абьвяшчае спаборы стыпэндыяў па розных адукацыйных праграмах. Да ўдзелу запрашаюцца грамадзяне Беларусі ,якія валодаюць ангельскай мовай (неабходна, як мінімум прайсьці TOEFL). Працягласьць адукацыі вагаецца ў залежнасьці ад праграмы. Адна з асноўных умоў кожнай праграмы -- абавязковае вяртаньне з ЗША пасьля заканчэньня адукацыі на пэрыяд ня меншы за 2 гады. Падобныя праграмы існуюць у амбасадах іншых заходнеэўрапейскіх краінаў (Францыя, Нямеччына).

Іншым, найбольш складаным, зьяўляецца пошук па Сетцы альбо праз эўрапейскія ды амэрыканскія базы дадзеных па адукацыйных праграмах, альбо праз сайты канкрэтных унівэрсытэтаў (большасьць з іх таксама мае праграмы па адукацыі моладзі з краін СНД, асабліва гэта тычыцца асьпірантаў). Асноўныя цяжкасьці зьвязаныя з падрыхтоўкай пакету дакумантаў і падтрымкай непарыўнай сувязі з фундацыямі. Тут трэба памятаць аксыёму: «Ахвотнікаў шмат, а фундацыя адна».

Найбольш поўнымі базамі дадзеных па адукацыйных праграмах і фундацыях у Сетцы зьяўляюцца :

**The John D. and Catherine T. MacArhtur Foundation** (*www.macfnd.org*). Канцэнтруе сваю ўвагу на праектах зьвязаных з аховай навакольнага асяродзьдзя. Гранты выдзяляюцца прыватным асобам і групам з прыярытэтам для маладых спэцыялістаў і жанчын.

**Rockfeller Brothers Fund** (*www.rbf.org/rbf*). Асноўная колькасьць грантаў фонда выдзеляецца па праграме «One World -- Sustainable Resourse Use», мэта якой - разьвіцьцё міжнародных дыскусіяў па зьмяненьні клімату ды захаваньні біяшматлікасьці на глябальным узроўні. Вызначанага тэрміну падачы заяваў фундацыя ня мае.

**Community Information service on Research and Development (CORDIS)**(*www.cordis.lu*) Асноўная база дадзеных па розных навуковых фундацыях у розных галінах ведаў. Прадстаўляе магчымасьць шырокага пошуку і выхаду на сайты канкрэтных навуковых фундацыяў.

**European Cooperation in the field of Scientific and Technical Research (COST)** (*www.belspo.be/cost*).Прыкладна тое, што і CORDIS, але і ў гэтай базе робіцца ўпор на навукова-тэхнічны абмен людзей і ідэй па ўсёй Эўропе.

**European Laboratory for Particle Physics** (*www.cern.ch*),**European Space Agency** (*www.esrine.esa.it*), **European Synchrotron Radiation Facility** (*www.esrf.fr*), **Institute of Physics** (*www.iop.org*) – шэраг агульнаэўрапейскіх інстытутаў, якія маюць магчымасьць прадстаўляць гранты для адукацыі студэнтаў і асьпірантаў з краінаў СНД.

**(працяг у наступным нумары)**

# Ой рана, на Івана...

**Уначы з 8-га на 9-е ліпеня абьяднаная моладзевая апазыцыя Горадні ладзіла «Купальле». Сьвята праходзіла на беразе Нёмана, недалёка каля санаторыя «Купалінка».**

Вялізнае вогнішча , вялікая колькасьць вянкоў на галовах ды некая стылізаваная лялька - вось што характарызавала гэтае Купальле. Пазьней некаторыя ўдзельнікі сьвята назавуць гэтую ляльку - хто Далібогам, а некаторыя дасьціпныя - «маскалём».

Распачалося сьвята са сьпяваньня купальскіх песень, у якім моладзі дапамагалі прадстаўнікі хору «Бацькаўшчына», за што ім шчыры дзякуй. Апоўначы маладыя людзі пабеглі шукаць папараць-кветку.І што было дзіўным - знайшлі яе два хлопцы.

Але асноўнаю перашкодаю гэтага сьвята стаўся дождж, які распачаўся амаль што адразу апасьля апоўначы ды ліў усю ноч. Аднак ён не стаў перашкодаю для самых моцных удзельнікаў сьвята, якія а 5-й раніцы пачалі пускаць па Нёману вянкі са зьнічкамі. Былі таксама і скокі праз вогнішча іспяваньне песень пад гітару ды шмат чаго іншага .

**А.Мялешка**

# Край - рэальны адпор рэжыму

**Ня так даўно на Беларусі ўзнікла новая сіла,якая зьяўляецца рэальнай пагрозай рэжыму,якая бароніць інтарэсы беларускага народу. Гэтая сіла – нацыяналісты.**

**Але з-за інфармацыйнае блякалы,якую стварылі афіцыйныя СМІ вакол усяго апазыцыйнага для большасьці людзей ідэі ды дзейнасьць беларускіх нацыяналістаў застаюцца невядомымі. Каб "праліць святло"на гэтую тэму мы вырашыылі пагутарыць з прадстаўніком Спартова- патрыятычнай арганізацыі "Край"(СПА "Край")**

*- Распавядзіце,калі ласка, як і калі паўстала вашая арганізацыя, пра яе мэты і задачы.*

- СПА "Край" узнікла ўвосені 1998 году. Першапачаткова гэта была "суполка",але праз год свайго існаваньня арганізацыя пачала сваю разбудовуі набыла статус агульна рэспубліканскай. Паўстаў "Край" таму, што зьявіліся людзі, якім абрыдла слухаць апазыцыйныя размовы,нічога не робячы. Людзі,якія хацелі рэальна, справамі змагацца з акупацыяй і утварылі "Край".



Мэтай арганізацыі ёсьць выхаваньне новага пакаленьня, моцнага духам і фізычна, выхаваньне новае гэнэрацыі нацыяналістаў,якія будуць абаронцамі сваёй Бацькаўшчыны. Мы выхоўваем эліту Нацыі,якая будзе выражаць інтарэсы народа.

Што тычыцца функцыяў, якія выконвая арганізацыя,то гэта:

- прапаганда Нацыянальнае Ідэі ды Нацыяналізму;
- маральнае,духоўнае ды фізычнае выхаваньне моладзі;
- нацыяабарончая дзейнасьць.

*Што ў Вашым разуменьні " нацыяабарончая дзейнасьць".*

- Гэта своеасаблівыя акцыі пратэсту: шэсьці, паходы і г.д..Найбольш яскравым прыкладам нацыяабарончай дзеі ёсьць акцыя Чарнобыльскі Шлях-99 ў Горадні. Мэтаю дадзенай акцыі зьяўлялася абарона (фізычная ды маральная) Беларускай Нацыі.

*Якім чынам адбываецца ў вас выхаваньне моладзі?*

- "Край" рэгулярна праводзіці палявыя і адмысловыя вышкалы (трэніроўкі). Улетку дзейнічаюць вышкальныя табары, дзе маладыя нацыяналісты загортваюцца фізычнаі маральна.

*Афіцыйныя і некаторыя незалежныя СМІ называюць часта вас фашыстамі, тэрарыстамі....*

- Гэта ці недасьведчанасьць, ці дробная правакацыя. Нават пры павярховым азнаямленьні з нашай ідэалёляй усе міты пра фашызм і расізм становяцца сьмешнымі. Што тычыцца тэрарызму,дык лукашэнкаўскія сьпэцслужбы правялі ў краіне такую падрыўную працу, якой пазайздросьцілі б любыя тэрарысты.

*Распавядзіце пра нацыяналістычную ідэалегію*

- Ідэалёгія "Края "—гэта і ёсьць беларускі нацыяналізм, які ёсьць ня толькі Грамадзка-палітычным, а і духоўным сьветапоглядам. Ён фармаваўся на працягу стагодзьдзяў. Найвыбітнейшымі нацыяналістамі былі К. Каліноўскі, В.Ластоўскі, В.Гадлеўскі. У нашым раазуменьні нацыя – гэта не толькі супольнасьць людзей, што жыве на адной тэрыторыі, карыстаецца адной мовай,мае агульную гісторыю і г.д. Нацыя—гэта "жывыя , мёртвыя і ненароджаныя",духовая повязь мінулых і будучых пакаленьняў, якіх злучае адна ідэя, а злучальнікам ёсьць існуючае пакаленьне. Нацыя – гэта найвышэйшы тып арганізацыйнай чалавечай супольнасьці, якая адрозьніваецца ад народа нацыянальнаі волею ды сьвядомасьцю. Нацыяналізм-гэта ідэялістычны сьветапогляд, стрыжнем якога зьяўляецца ідэя Нацыі.

Нацыянальная Ідэя – гэта мэты і задачы,якія ставіць перад сабой Нацыя на розных этапах свайго разьвіцьця.

На сёньняшнім этапе разьвіцьця галоўная мэта – здабыцьцё Беларускай Незалежнай Нацыянальнай Дзяржавы, бо толькі празь дзяржаву, якая зьяўляецца гарантам разьвіцьця Нацыі, можна найлепш выканаць мэты і задачы, што ставіць перад сабой Нацыя.

Усё вышэй узгаданае – гэта асновы. Пра ідэалёгію можна пісаць вельмі шмат.

- *Распавядзіце, калі ласка, пра апошнія акцыі "Края"*

Апошняй акцыяй быў удзел краёўцаў у сьвяткаваньні Аршанскай Перамогі.Трохі раней 20 прадстаўнікоў арганізацыі ўдзельнічалі ўва ўшанаваньні памяці ахвяраў НКУС у мястэчку Ігумен.

- *Вашыя пляны на будучыню*

Змагацца за Беларускую Дзяржаву!

Жыве Беларусь!

Жыве вечна!

*P. S.* Для таго, каб атрымаць больш поўную інфармацыю пра дзейнасьць арганізацыі ды ідэалёгію СПА"Край" лістуйце:

**230003, Горадня – 3, а\с 100**

*Гутарыў Пятро Лідовіч.*



# МАРШ ВОЛІ Ў В. ДУБНА

Жыцьцё «электарата» вёскі Дубна, што на Мастоўшчане амаль нічым не адрозьніваецца ад жыцьця «электарата» іншых вёсак Беларусі. У моладзі няма нічога акрамя дыскатэкі-гапатэкі ды «кропкі» — месца, дзе можна набыць «СЭМ» (самагон). У асоб сярэдняга ўзросту акрамя «кропак» ёсць калгас, а старым засталося тэлебачаньне ды агарод.

Дубенская гапатэка, лепшае месца ў вёсцы, каб убачыць адразу тры-чатыры тузіны «гопнікаў», а калі пашанцуе, то яны да цябе не дачэпяцца. Верагоднасьць гэтага адсоткаў 80, бо зараз у іх там зьмена пакаленьняў. Нармалёвых дзяўчын вельмі мала, сьвядомых зусім няма, таму застаецца толькі танчыць. Танчыць там можна калі:

а) ты месны «гопнік»;

б) ты ўжо набыў «СЭМа»;

в) ты заўзяты прыхільнік гуртоў, кшталту «Рукі ўгору»;

г) ты здурнеў.

Дзеля рэкламы адзначу, што кошт квітка на «дыскатэку» 52 рублі.

Наконт «кропак» ды «СЭМу» мне вядома толькі тое, што 0,5 літра гэтага рэчыва каштуе 720 рублёў.

Становішча ў калгасе які мае назву «Дубна» (добра, што не «60 год без ураджаю» або «імя першага прэзыдэнта Беларусі») не самае дрэннае ў краіне, але і тут ужо больш чым два месяцы не выплочваюць заробак і рыхтуюцца змагацца за ураджай (ці супраць яго).

Калі ты маеш тэлевізар, то зможаш кожны вечар бачыць, што там робіць наш Прэзыдэнт, як там ідзе інтэграцыённы працэс, або якую шкоду панесла краіна ад варожага Захаду, прадажнай апазыцыі ці дрэннага надвор'я.

Дык вось... 13 ліпеня, ўначы, у гэтай самай вёсцы адбылося масавае несанкцыянаванае шэсьце (неафіцыйная назва акцыі «Марш Свабоды-3) па цэнтральнай вуліцы, ў якім удзельнічала прыблізна каля 0,3(!) адсоткаў жыхароў вёскі (больш чым у Менску!). Пад час акцыі ўсе тры чалавекі (сярод якіх былі сябры Беларускай Партыі Свабоды і Маладога Фронту) скандавалі патрыятычна-антыўрадавыя лёзунгі і сьпявалі песьні беларускага гурта N.R.M. У якасьці расцяжкі быў выкарыстаны бел-чырвона-белы сьцяг. Не абышлося без правакацый, так нейкі хлопец крыкнуў зь цемры, што ён «маскаль», але дэманстранты не пабеглі за ім, а наадварот паклікалі падысьці бліжэй. «Маскаль» раптам зьнік.

На жаль, акцыя не мела велікага рэзанансу, бо большасьць дубенцаў спала і сьніла сны пра вялікія ўраджаі, сьветлую будучыню і сапраўдны камунізм. На жаль...

**Ігар Трафімовіч**



## Падарожжа па Ваўкавышчыне

*Напачатку жніўня Ваўкавыская суполка Маладога Фронту сумесна з моладзевай ініцыятывай "Ліцьвіны" праводзіла краязнаўчую вандроўку па Ваўкавыскаму раёну.*

Мэтай гэтае вандроўкі быў збор тапанімічнага ды фальклёрнага матэрыялу.Таксама адбываўся збор экспанатаў для краязнаўчага музэя пры педагагічнай вучэльні ды павелічэньне ўласнага досьведу аб гісторыка –культурных помніках маленькай Радзімы.

Вандроўка праходзіла ў два туры: з 3-га па 6-га жніўня — першы тур і ад 9-га па 13-га жніўня – другі . Пад час першага туру маладыя края знаўцы наведалі вёскі Янавічы, Шылавічы, Снапкі, дзе было сабрана багата фальклёрнага й мікратапанімічнага матэтыялу. Вяскоўцы з радасьцю распавядалі аб паходжаньні назваў вёсак, аб абрадах ды народных сьвятах, аб падзеях Другой сусьветнай вайны . У другім туры шлях маладафронтаўцаў праходзіў праз вёскі, у якіх захаваліся гісторыка-культурныя помнікі раёна. Да прыкладу, у Гнезьне захаваўся адзін з самых старых касьцёлаў на Беларусі , у вёсках Падароск ды Краскі захаваліся палацавыя комплексы пачатку 20-га стагодзя . На жаль , стан гэтых архітэктурных помнікаў вельмі крытычны й калі сытуацыя не зьменіцца, праз некаторы час яны могуць зьнікнуць. Каб паспрабаваць іх захаваць, маладыя краязнаўцы плянуюць выдаць бюлетэнь ды працягваць працу ў гэтым накірунку.

**Адэлька**



ІНФАРМАЦЫЙНЫ ВЕСЬНІК ГАРАДЗЕНСКАЕ АРГАНІЗАЦЫІ «МАЛАДОГА ФРОНТУ» ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА НЕПЭРЫЯДЫЧНЫМ ВЫДАНЬНЕМ. НАКЛАД 299 АСОБНІКАЎ.

АДРАС ДЛЯ КАНТАКТАЎ: 230003, ГОРАДНЯ-3, А/С 110. E-MAIL: BUNT.HRODNA@USA.NET; ASIARHEI@YAHOO.COM ;ТЭЛ.:72-11-83; ФАКС:76-29-73

АДКАЗНЫ ЗА ВЫПУСК: ПАВАЛ МАЖЭЙКА

ВЕСЬНІК ВЫДАЕЦЦА ПРЫ СПРЫЯНЬНІ ГТА «РАТУША»